Цана 15 гр. „Białaruski Front“ 1 lipca 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 13 (47) Вільня, 1 ліпня 1939 г. Год IV

## Адзінка і грамадзтва.

Ужо здаўных, бо ад часу, калі людзі пачалі думаць у справах грамадзкіх і палітычных, ставіцца на парадак дня прабляма аб адносінах чалавечай адзінкі да грамадзтва і наадварот. Кожны прызнае, што *адзінка* мае свае правы і павінна іх мець, але з другога боку мае свае правы і *грамадзтва*, зложанае з адзінак на падставе нацыянальна-палітычнай, гаспадарчай, рэлігійнай ці якой іншай.

На працягу гісторыі мы спасьцерагаем і дасьледжваем ня так жыцьцё адзінак, як жыцьцё людзкіх грамадзтваў: народаў, дзяржаў, саюзаў і г. д. Адзінкі ў гэтым жыцьці адыгрывалі большую ролю толькі ў такім прыпадку, калі стаялі на чале грамадзтваў або былі з грамадзтвам зьвязаны. Самі адзінкі ў гісторыі ня маюць значэньня. Грамадзтвы, так як і адзінкі, жывуць, разьвіваюцца, супрацоўнічаюць або змагаюцца паміж сабою — і гэтак твораць гісторыю. Гэтакі ёсьць закон жыцьця.

Але ў гэтым жыцьці шукаюць яшчэ іншага закону і пытаюцца: *што важней, інтарэсы адзінкі, ці інтарэсы грамадзтва?* Трэба прызнаць, што гэтае пытаньне ва ўсей сваей шырыні яшчэ ня вырашана і на працягу вякоў сужыцьцё адзінкі і грамадзтва мела розныя формы. Адно трэба сьцьвердзіць, што *сяньня* чалавецтва ўвайшло ў эпоху, у якой інтарэсы грамадзтва ставяцца вышэй за інтарэсы адзінкі. Але ці гэтак было заўсёды?

У сераднявечны інтарэсы адзінкі былі агранічаны на карысьць грамадзтваў рэлігійных (Касьцёл — Царква), дзяржаўных (дынастыі), або прафэсыянальных (цэхі). Гэтыя грамадзтвы нармавалі тады жыцьцё адзінак і, праўду кажучы, адымалі ад іх многа правоў. Але, мусіць, людзкая адзінка ня можа зрачыся зусім сваіх „сувэрэнных“ правоў і калі агранічэньне гэтай „сувэрэннасьці“ пераступіла межы і прывяло да абсалютызму, пачаўся яўны бунт адзінкі проціў грамадзтва. Такіх бунтаў мы на працягу гісторыі бачым многа. І так, пры канцы сераднявечча бачым вялікі бунт чалавечай адзінкі; бунт, ведамы пад назовам *гуманізму*, або такога кірунку, які ў цэнтры жыцьця людзкога ставіў чалавека і справы людзкія (res humanae). Усьлед за гуманізмам прыйшоў протэстантызм, або бунт адзінкі ў справах рэлігійных, калі чалавек адкінуў пададзеныя яму догмы і заявіў, што ён сам для сябе будзе тварыць догмы. Высловам гэтых двух кірункаў, гуманізму і протэстантызму, была Француская рэвалюцыя, якая кінула клічы роўнасьці, братэрства і свабоды — і выпрацавала дэклярацыю *правоў* адзінкі (грамадзяніна), забываючыся аб ягоных *абавязках* перад грамадзтвам. Значыць, адзінка тады перамагла. Француская рэвалюцыя кідае ў сьвет ідэю поўнай свабоды адзінак. Пад уплывам гэтай ідэі творацца незалежныя мысьлёвыя і этычныя кірункі, будуецца палітычнае жыцьцё на падставе роўнасьці адзінак (дэмакратызму), паўстаюць тэорыі аб непатрэбшчыне ўсякай улады — і чалавецтва пакацілася да анархізму і нігілізму...

Калі ўжо апынулася над пропасьцю анархізму, чалавецтва пачынае варочацца да грамадзтва. Але скок быў лішне раптоўны, бо *ад культу* адзінак (індывідуалізму) чалавецтва перайшло адразу *да культу* грамадзтва (сацыялізму). Першымі ў гэтым павароце пайшлі камуністы, якія паставілі на першым пляне адну грамадзкую клясу, *пралетарыят*, і распрацавалі тэорыю аб поўным падданстве яму адзінкі. За камуністамі пайшлі фашысты, якія на першым пляне паставілі не адну клясу, а ўсю *нацыю* (дзяржаву), і заявілі, што інтарэсам нацыі (дзяржавы) павінны быць падпарадкаваны інтарэсы адзінак. Далей яшчэ пайшоў расізм (гітлерызм), які ачышчае нацыю ад усякіх чужых элемэнтаў, навучаючы, што да нацыі можа належаць толькі той, хто мае з ёю кроўныя сувязі. Дзеля таго што расізм паўстаў пасярод германскай расы, распрацавана тэорыя аб вышшасьці паўночнай (нордыцкай) расы над іншымі арыйскімі расамі, асабліва над славянамі.

Гэтакім парадкам чалавецтва ад культу адзінак ізноў варочаецца да культу грамадзтва, зрабіўшы вялікі гістарычны круг. Ці ня крыецца ў гэтым раптоўным павароце вялікая памылка — пакажа будучыня.

Мы, стоячы на грунце каапэратывізму, заўсёды баранілі і баронім як правоў адзінак, так і правоў грамадзтва, бо *грамадзтва ўважаем за зьвяз адзінак*, маючых адны мэты і аднолькавыя спосабы, вядучыя да гэтых мэтаў, а чалавека ўважаем за поўнапраўную людзкую адзінку, якая, увходзячы ў грамадзтва, перадае гэтаму грамадзтву часьць сваіх правоў, часьць сваіх сіл і маемасьці, а ў выпадку патрэбы і ўсе свае правы, усе сілы і ўсю маемасьць, а нават сваё жыцьцё. Гэтакім парадкам рэалізуецца каапэратывізм гаспадарчы, грамадзкі, нацыянальны, палітычны і ўсякі іншы.

Усе народы, як мы ўжо сказалі, увaходзяць цяпер у эпоху культу грамадзтва. Беларускі народ, хоча ён гэтага ці хоча, будзе прымушаны перажыць гэту эпоху і ўзяць у ёй удзел. Праўду кажучы, у беларускім народзе культу для грамадзтва спасьцерагалася вельмі мала. Дагэтуль беларус змагаўся найболей за вызваленьне адзінкі, бо гэтая адзінка была ў няволі грамадзкай і палітычнай і дзеля гэтага культу для грамадзтва ў беларускім народзе і ў сучаснасьці нямнога. Заінтарасаваньне яго скіравана найболей у кірунку дабра адзінак. Уважаем, што гэтакія настроі ёсьць аднабокія і беларускі народ, прынамся ў лепшай сваей часткі, павінен звярочваць увагу ня толькі на дабро адзінак, але і на дабро грамадзтва — народу, так, як гэта бачым у іншых народаў. Такім парадкам, пад уплывам новых ідэяў, беларускі народ можа зроўнаважыць у сябе як інтарэсы адзінкі так і інтарэсы народу. Гэтае зроўнаважаньне ёсьць першым варункам правільнага і здаровага грамадзкага ладу.

## Японска-англійскі канфлікт.

На Далекім Усходзе разгарэўся вялікім і грозным полымем канфлікт паміж Японіяй і Англіяй на грунце блёкады японцамі „міжнароднай канцэсіі“ у Тьентсіне, якая належыць да Англіі і Францыі. Спачатку думалі, што гэта толькі мясцовы інцыдэнт, які будзе скора зьліквідаваны пры помачы дыпляматычных перагавораў, так як было зьліквідавана многа падобных інцыдэнтаў. Аднак пазьнейшыя факты паказалі, што **блёкада англійска-француская канцэсіі ў Тьентсіне — гэта пачатак вялікага і добра абдуманага пляну ліквідацыі англійскіх інтарэсаў у Кітаі.**

Прычыны да канфлікту ў такіх прыпадках знаходзяцца лёгка. У Тьентсіне быў забіты адзін кітайскі ўрадавец, які супрацоўнічаў з японцамі. Падазроныя ў забойстве 4 кітайцы скрыліся на тэрэне англійскай „міжнароднай канцэсіі“ і англійцы не хацелі іх выдаць. Канцэсіі маюць правы экстэрытарыяльнасьці г. зн. туды ня можа ўваходзіць ніякае войска і ніякая паліцыя, апроч войска і паліцыі тэй дзяржавы, да якой канцэсія належыць. На працягу векоў гэтакія „канцэсіі“ ад няшчаснага Кітаю здабылі для сябе розныя дзяржавы, а галоўна Англія, якая з Кітаю, так як і з Індыі зьбірала вялізарныя даходы. Вось гэтыя „канцэсіі“ заатакавала Японія, але пакульшто толькі англійскія і французкія, не чапаючы ніякіх іншых, у тым ліку і амэрыканскіх... Японцы заяўляюць, што і францускую канцэсію яны блёкуюць толькі дзеля таго, што яна разам з англійскай, а каб была аддзельна, дык не чапаліб. Амэрыканцам кажуць, каб сядзелі ціха, дык іх не зачэпяць — і амэрыканцы сядзяць ціха... Японская палітыка ясная: яна хоча разьдзяліць Англію і яе саюзьніц, зьліквідаваць у Кітаі спачатку найбольшага свайго ворага, а потым ўзяцца і за меншых... І японцы пачалі біць Англію, як найбольшага свайго ворага, ды так моцна, як яшчэ ніхто яе ня біў ў Азіі. Мала таго, што акружылі ўсю канцэсію і мораць голадам англійскі гарнізон і жыхарства, але яшчэ ўсякімі спосабамі зьдзекуюцца над англійцамі: трымаюць іх разам з кітайцамі ў калейцы перад канцэсіяй, пры рэвізіі разьдзяюць і б'юць, потым голых выганяюць на пасьмешышча кітайскага натоўпу, які мае з гэтага цэлае відовішча і здаваленьне, што „белых б'юць“... А трэба ведаць, што ў Кітаі белага ня то што ня можна было біць, але нават арыштаваць; белага арыштавець мог толькі белы!... А тут арыштоўваюць і б'юць **жоўтыя** японцы, ды яшчэ каго? Гордых англічан, перад каторымі дагэтуль усё карылася ў Азіі! Мала гэтага! Б'юць публічна па твару, а англійцы ні то што не аддаюць назад, але нават не пратэстуюць! А трэба ведаць, што публічнае біцьцё чалавека па твару ўважаецца ў кітайцаў за вялікую зьнявагу! Гэтакім парадкам Японія нішчыць павагу і панаваньне Англіі ў Кітаю!

Якія-ж **сапраўдныя прычыны** маглі выклікаць такое вострае выступленьне Японіі проціў Англіі?

**Першай і галоўнай прычынай** было тое, што Англія разам з Саветамі найболей паддзержывае Чанг-Кай-Шэка ў яго змаганьні з Японіяй. Ад Англіі Кітай меў усё: і грошы і ўваружэньне і тавары і інструкцыі. На абшары Кітаю дзьве найсільнейшыя ў Азіі дзяржавы спаткаліся ў сьмяротным змаганьні. З аднаго боку Японія, якая ваюе жалезам і сваёю кроўю, а з другога боку Англія, якая ваюе золатам і кітайскай кроўю. Чалавечага матар'ялу ў Кітаі многа, дык на месца кожнай разьбітай японцамі дывізіі, Англія (разам з Саветамі) тварыла дзьве іншых і пасылала іх у бой. Гэтак было праз два гады — і ўрэшце Японія зразумела, што без перамогі над Англіяй немагчыма перамога над Кітаем... Дык замест таго, каб біць Кітай, пачала біць Англію — і Саветы! Згэтуль у вапошнім часе выплываюць такія вострыя выступленьні Японіі як проціў Англіі, так і проціў Саветаў.

**Другой прычынай** была нямецкая дыплямацыя. Проціў Нямеччыны, як ведама, выступіла ў Эўропе Англія, творачы вялікую коаліцыю. Гэта коаліцыя, ў якую Англія ўсімі сіламі стараецца ўцягнуць і Саветы, мае акружыць Нямеччыну з усіх бакоў, ізаляваць яе і падыктаваць свае варункі... На гэтакую палітыку Англіі Нямеччына адказала тым, што заключыла вайсковы саюз з Італіяй і прыцягнула да сваёй палітыкі Японію. Дагэтуль Японія баялася чапаць Англію, але цяпер, заахвочаная Нямеччынай і Італіяй выступіла проціў Англіі з цэлай жорсткасьцяй свае ўсходняе душы... Аб існаваньні нейкага паразумленьня (а можа і саюзу) паміж Нямеччынай, Італіяй і Японіяй сьведчыць тое, што інтарэсы дзьвух першых дзяржаў у Кітаі не нарушаны, а нават Японія ўсімі спосабамі маніфэстуе сваю дружбу з фаш. дзяржавамі. Японскія салдаты, якія столькі прыкрасьці робяць англічанам, пры спатканьні з нямецкімі або італьянскімі салдатамі, ветліва „казыраюць", аддаючы чэсьць саюзным сьцяжком...

**Высновы** з гэтакага палажэньня ідуць вельмі далёка.

**Першы выснаў:** на Далёкім Усходзе пачалася ліквідацыя магутнасьці Брытыйскай Імпэрыі. Італьянская прэса піша нават аб хуткім заняпадзе англійскай сусьветнай гэгэмоніі. Кажа, што на зьмену ёй прыходзяць новыя народы, якія ваююць ня золатам, але кроўю і жалезам... Выслаць сваю флёту ў Азію Англія ня можа дзеля напружаннасьці палажэньня ў Эўропе.

**Другі выснаў:** праз падзеі на Далёкім Усходзе адцягваецца ўвага Англіі ад спраў сярэдняй і ўсходняй Эўропы. Няма ніякага сумліву, што Англія хутчэй будзе бараніць сваіх інтарэсаў у Азіі, чым чужых у Эуропе. Для Англіі важнейшыя цяпер інтарэсы ў Тьентсіне, і наагул у Кітаі, чым, напрыклад, у Гданску, або дзе ў другім месцы сярэдняй ці ўсходняй Эўропы.

**Трэці выснаў:** Нямеччына, карыстаючыся адваротам увагі Англіі ад эўрапэйскіх спраў, захоча паставіць сьвет перад якім новым „дакананым" фактам у сярэдняй Эўропе. Француская і англійская прэса піша, што палажэньне ў Эўропе можа скора дайсьці да такога напружаньня, пры якім прыцьмее эўрапэйскі крызыс з верасьня мін. году і сакавіка сёлета.

**Чацьвёрты выснаў:** мірнага выхаду з гэтага палажэньня пакульшто ня відаць. Француская і часткова англійская прэса піша, што эпоха ўступак у Эўропе скончылася беспаваротна. Ізноў-жа ў Кітаі Японія паставіла між іншым такі варунак, каб Англія памагала ёй у праводжаньні ейных плянаў, г. зн. каб прыняла ўдзел у ліквідацыі Чанг-Кай-Шэка і ў захваце Кітаю! Ясна, што на самаліквідацыю Англія ня пойдзе. Тоесамае і ў Эўропе. Значыць, палажэньне астаецца грозным. Кажуць, што гэтае лета будзе дэцыдуючым.

Гэтакі ёсьць сапраўдны стан рэчаў. Найбольшую ўвагу цяпер зварочвае **сувязь,** якая існуе паміж Усходам і Захадам, паміж падзеямі на Далёкім Усходзе і ў Эўропе. Як Усход, так і Захад абняты адным дзеяньнем. Увесь сьвет знаходзіцца перад вялікімі вырашэньнямі.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**„Спакушваньне беларусаў".** Пад гэтакім загалоўкам „Kurjer Polski" (22.VI), орган польскага вялікага промыслу (Левіятана), зьмяшчае вестку аб спробах нямецкай палітыкі перацягнуць на свой бок беларусаў. Зьмяшчаем гэту вестку ў дасло̆ўным перакладзе і з падчыркненьнямі, якія ёсьць у „Kur. Pol.".

„Праявай „белай вайны", якая вядзецца з Польскай дзяржавай, ёсьць спроба „мантаваньня" беларусаў пад апякунчымі крыльлямі Нямеччыны. У Гданску паіменна адбыўся „кангрэс" беларускіх дзеячоў з Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Савецкай Расеі і Злуч. Штатаў. Дэлегат з Амэрыкі дамагаўся пераканаць сабраных, што **бэрлінскі ўрад плянуе стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы** і што дзеля гэтага беларусы павінны памагаць немцам у рэалізацыі іхных плянаў на ўсходзе Эўропы.

„На беларускім зьезьдзе **ня было згоды.** Большасьць дзеячоў з Эўропы выказалася проціў упраганьня беларускага народу ў трыўмфальны воз (rydwan) імпэрыялістычнай нямецкай палітыкі. Дыскусыя мела бег бурны, праціўнікі супрацоўніцтва з Бэрлінам **дэманстрацыйна пакінулі зьезд.** Людзі „здабытыя" Трэцім Райхам вялі далей нарады ў малым кругу. Няведама нават, ці вынесьлі якіясь рэзалюцыі.

„Гэта ёсьць рэчай другараднай. Істота праблемы ляжыць у тым, што Нямеччына найвідавочней арганізуе прапагандную баталію і што ў гэтай баталіі **нейкая роля ёсьць вызначана і беларусам,** або беларускай справе. Беларусы, дзеючыя ў Польшчы, ужо перад некулькімі тыднямі зварочвалі ўвагу, што нямецкія агенты стараюцца закінуць сеці і выкарыстоўваць беларускую меншасьць для сваіх мэт. Дзякуй Богу, бяз рэзультату".

Гэтак піша „Kurjer Polski". Ня ведаем, колькі ў гэтай пісаніне праўды. Каліб гэта пісаў ІКЦ, мы падазравалі-б ягонага інфарматара ў нейкай правакацыі, але „Kurjer Polski" гэтага не павінен рабіць. З таго, што напісаў „Kurjer Polski", відаць, што ў Гданску нейкі беларускі зьезд адбыўся, былі нейкія дэлегаты і спробы навязаньня супрацоўніцтва з Нямеччынай. Шкада толькі, што „Kurjer Polski" не падаў **прозьвішчаў** дэлегатаў і **даты** зьезду; гэта аслабляе сілу і значэньне ягоных інфармацыяў. Дзеля гэтых нястачаў мы да ўсяе гэтае інфармацыі адносімся вельмі крытычна.

**„Вялікая Літва".** З Коўні паведамляюць у Варшаву, што немцы распаўсюджваюць паштоўкі, адбітыя ў Клайпэдзе, на каторых з аднаго боку надрукавана карта Нямеччыны разам з Клайпэдай і надпісам: „Вялікая Нямеччына — дзякуем нашаму Фюрэру" а з другога боку, з надпісам „Вялікая Літва", прадстаўлена карта пашыранай Літоўскай Рэспублікі, у граніцы якой уваходзяць Вільня, Паставы, Ашмяна, Ліда, Горадня і іншыя гарады. Польская прэса называе гэтую нямецкую акцыю „спакушваньнем Літвы".

Мы пісалі аб „спакушваньні беларусаў", але, як бачым немцы „спакушваюць" адначасна і літвіноў, ды яшчэ аддаючы ім гэтакі вялікі беларускі абшар! Літоўская газэта „XX Amžius", падаючы вестку аб гэтых паштоўках, астаўляе яе без камэнтараў. Відаць, згаджаецца. І нічога ў гэтым дзіўнога, бо граніцы Літвы, пададзеныя на паштоўках, адказваюць цалком літоўскім лятуценьням аб „Вялікай Літве" з уключэньнем у яе вялікага абшару чыста беларускіх земляў. Але ці на гэта згодзяцца беларусы! Да гэтай справы мы яшчэ вернемся.

**„Праваслаўны двутыднёвік".** Прыпадкова трапіў нам у рукі 3-ці (15-30. VI) нумар часапісу ў польскай мове пад заг. „Dwutygodnik Prawosławny", орган грамадзка-рэлігійны. Часапіс выходзіць у Вільні, а выдае яго „Праваслаўны Навукова-Выдавецкі Інстытут" у Горадне, заложаны дзеля пазнаньня і ўгрунтаваньня польшчыны пасярод праваслаўных. Справа робіцца яснай: гэта ёсьць орган праваслаўных палякаў. Чытаем передавы артыкул. На самым пачатку сказана так: „Два вуглавыя камені паложаны ля падставы нашае праграмы: сьвятая праваслаўная рэлігія і Маці Бацькаў-

# Раскопкі ў Горадні і Вільні.

Ад 1932 г. у Старым Замку ў Горадні вядуцца архэолёгічныя раскопкі, якія ўжо дагэтуль далі нязвычайна вартасны матар'ял да гісторыі Беларусі. Адначасна вядуцца архэолёгічныя досьледы ў Вільні, маючыя таксама вялізарнае значэньне для нашай гісторыі. Даць дакладна агляд таго, што выкапана ў Горадні і Вільні ў рамах газэтнага артыкулу немагчыма, ды для шырэйшай публікі быўбы можа незразумелы. Шырэйшая публіка цікавіцца галоўна тым, якое значэньне маюць гэтыя досьледы і якія вывады на аснове іх можна зрабіць. Дзеля гэтага і мы спынімся гэтым разам толькі над значэньнем ведзеных працаў для нашай гісторыі. Каб гэта значэньне было найбольш зразумелым, неабходна прыпомніць сабе галоўныя мамэнты з нашай гісторыі да XIV ст., бо толькі на іх фоне можна ўцяміць усю вагу здабытых дагэтуль рэзультатаў.

Беларускі народ вельмі рана выплыў на арэну гісторыі. З першых летапісных вестак аб ім мы даведаваемся, што ўжо ад IX—X стагодзьдзяў беларусы мелі даволі багатае палітычнае, культурнае і эканамічнае жыцьцё. Аднак, аж да паловы XIII ст. беларусы ня былі задзіночаны палітычна ў вадным гаспадарстве. Да гэтага часу беларусы мелі некалькі самастойных і ад сябе незалежных гаспадарстваў, званых **княствамі.** Зь іх найважнейшымі былі: **полацкае, смаленскае, турава-пінскае.** Меншую ролю гулялі княствы **пскоўскае** і **горадзенскае** з цэнтрам у Горадне ля Нёмана. Частка гісторыкаў кажа нават, што горадзенскае княства палітычна было залежным ад Полаччыны. Горадзенскае княства побач з **навагарадзкім** абыймала заходнія землі Беларусі.

Горадзенскае княства пасьля ўздойму ў XI — XII ст. пачынае занепадаць, а на яго месца высоўваецца на захадзе Беларусі ў XIII ст. **навагарадзкае** княства. З гэтага навагарадзкага княства вытвараецца цэнтр, зь якім на аснове фэдэрацыі лучацца дабравольна іншыя беларускія княствы ў вадно палітычнае цела. Паўстае новы палітычны арганізм, званы Вялікім Княствам Літоўскім (Беларускім) — гаспадарства ў поўным сэнсе слова Беларускае. Дагэтуль нявыясьнена, скуль паходзе назоў **„літоўскі"** (этымолёгічнае значэньне гэтага слова незразумелае ў беларускай як і літоўскай мове), трудна такжа дакладна вывесьці радавод „літоўскіх" князёў-гаспадароў новага Княства. У летапісах мы знаходзім згодныя весткі, што літоўскія князі паходзілі ад полацкіх. Пануючы, аднак, на захадзе Беларусі і маючы пад сабой і ў суседзтве яцьвягаў, прусаў, аўкштотаў, князі цесна стыкаліся з імі, бралі сабе жонак з гэтага асяродзьдзя і г. д.

Дзякуючы гэтаму мы бачым тут вялікую блытаніну ў імёнах князёў: паганскія беларускія імёны мяшаюцца з паганскімі балтыцкімі, варускімі, хрысьціянскімі. Адносна паходжаньня назову „Літва", на аснове дасюлешніх досьледаў, можна сказаць, што пачаткова гэты назоў адносіўся да краю **між Нёманам і Вяльлёй,** значыцца краю, населенага галоўна беларусамі. Пасьля ён пашырыўся на ўсё гаспадарства. Аднак каліб нават дапусьціць, што назоў „Літва" і дынастыя, панаваўшая ў Вялікім Княстве, былі літоўскага паходжаньня ў сяньняшнім разуменьні гэтага слова, дык і тады беларускі характар Вялікага Княства не мяняецца. Аб гэтым характары дэцыдуе зьмест палітычнага, культурнага і эканамічнага жыцьця гаспадарства. А гэты зьмест быў чыста беларускі, згодны з інтарэсамі беларускага народу. Францыя, Прусія, напрыклад — ёсьць назовы чужога паходжаньня і гэта не азначае, што Францыя зьяўляецца дзяржавай нямецкай, або Прусія — літоўска-балтыцкага паходжаньня. У Англіі пануе дынастыя нямецкага паходжаньня, у Гішпаніі былі Бурбоны-францускія, у Швэцыі — дынастыя такогаж францускага паходжаньня, аднак гэта не азначае, што Англія ёсьць нямецкай, Гішпанія і Швэцыя — францускімі. Гэткіх прыкладаў можна былоб прывесьці яшчэ мноства, але хопіць і гэтых.

Дык не ў назове справа. Тым ня менш у гісторыёграфіі Вялікага Княства трымаецца яшчэ даволі моцна пагляд, рэпрэзэнтаваны галоўна польскімі паваеннымі гісторыкамі, што калі Вялікае Княства з бегам часу і „зрушчылася" (чытай: зьбеларушчылася), дык, усёж стварыў яго, на руінах беларускіх княстваў, шляхам маланкавых заваяваньняў апошніх, этнаграфічны літоўскі элемэнт. У гэтым „падбою", паводле Лаўмянскага, ня прыймала ўдзелу Жмудзь і нават вялікшая частка Аўкштотаў (абодвух літоўскіх плямёнаў). **Толькі частка апошніх,** займаючая невялікі трыкутнік у вілах Нёмана і Вяльлі, аказалася паводле Лаўмянскага аж натолькі ваяўнічай, што патрапіла ў кароткім часе падбіць усе вялізарныя беларускія абшары. А трэба прыгэтым ведаць, што яшчэ ў палове XIII ст. жмудзіны і аўкштотцы ня мелі ніякай дзяржаўнай арганізацыі, пісьменнасьці, разгорнутага эканамічнага і культурнага жыцьця, аб чым сьведчыць хоцьбы адсутнасьць гэткіх цэнтраў у этнаграфічнай Літве, ды летапісныя дадзеныя. Натуральна, нямашака ў летапісцаў вестак, калі і які край беларускі быў падбіты. Прыхільнікі гэтай „тэорыі падбояў" выводзяць гэтыя дадзеныя шляхам нязвычайна заблытаных і фантастычных разважаньняў. А каб палягчыць сабе працу, яны стараюцца даказаць, што на заходніх землях Беларусі (ў Горадзеншчыне і Навагарадчыне), дзе паўстаў новы палітычны цэнтр, ніякіх беларускіх („рускіх") княстваў ня было, што землі гэтыя ляжалі „дзірваном", можа нават былі заселеныя балтамі і што аўкштотцы былі першымі, якія зарганізавалі на гэтых землях гаспадарства. Лаўмянскі ідзе нават аж так далёка, што кажа, быццам Горадня паўстала толькі ў XV ст. і была закладзена этнаграфічнымі літоўцамі. Натуральна, гэткая пастанова справы нязвычайна карысна для тэорыі літоўскіх „падбояў". Тады выдаваўсяб бяспрэчным факт, што Наваградзкае княства Міндоўга было аснована Аўкштотай, бо ніякіх беларускіх сілаў тут ня было.

# На беларускім грунце

### ПАЛАЖЭНЬНЕ СЯЛЯНСТВА.

Вельмі часта ў польскіх часапісах можна спаткаць артыкулы аб дапамозе сялянству, аб дбаласьці аб ім урадавых і самаўрадавых кругоў. Я аднак уважаю, што гэта помач і дбаласьць або невыстарчаючая, або неправільна пастаўлена.

Наўперад мушу ўспомніць, што сялянства ў жыцьці народу і дзяржавы мае вялікае значэньне. Даволі ўспомніць аб тым, што сялянства дае ўсе грамадзянству прадукты, патрэбныя да жыцьця, дае найболей рэкрута, плаціць адносна да сваіх даходаў вялікі падатак, становіць рэзэрвуар здаровых народных сіл, дык яно варта ня толькі дапамогі, але і пашаны. Тымчасам мы відзім на вёсцы лішне **цяжкую працу**, за якую наш селянін не мае адпаведнай, роўнаважнай з ягонай працай, нагароды. Збожжа ў параўнаньні з фабрычнымі вырабамі заўсёды ў вапошніх часах было затаннае, за пуд прададзенага збожжа (працу селяніна ацэньваюць на вёсцы пудам збожжа), селянін ня можа купіць стольکі, сколькі трэба было-б за ўложаную ў гэты пуд працу, за жывёлу тое самае — значыць палажэньне селяніна тут крыўднае.

Пярэйдзем да іншай дзелянкі жыцьця. Ці наш селянін мае за сваю цяжкую працу нейкае забясьпячэньне на старасьць, або на выпадак хваробы? Калі мае грошы, дык шпіталь прыйме, а калі ня мае, дык трэба хварэць і без лякарства і бяз дохтара. Тымчасам прыгледзімся да жыцьця ўрадаўцаў, хоцьбы на найніжэйшай ступені службы. Такі ўрадавец мае **поўнае** сацыяльнае забясьпячэньне, і на выпадак хваробы, і на старасьць. Яму прыходзіць з помачай грамадзянства і дзяржава, даючы эмэрытуру. А што нашаму селяніну? Бадай нічога! А якія абавязкі? Дзяржава, гміна, касьцёл або царква, школа, свае асабістыя патрэбы — усё гэта ляжыць на плячох селяніна. Ад яго бярэцца многа, а даецца мала. Палёгку або зьніжку рэдка калі здабудзе, а тымчасам урадавец і ў школе, і на жалезнай дарозе, і ў шпіталі ці санаторыі — словам усюды мае вялікія зьніжкі. У гэтым ляжыць вялікая грамадзкая няроўнасьць, якая на кожным кроку кідаецца ў вочы і якую трэба выраўняць.

Вялікай крыўдай для нашага сялянства ёсьць немагчымасьць вучыць дзяцей у сярэдніх або вышэйшых школах. Яшчэ праз „паўшэхніцу“ сяк-так дзіця перапезе, хоць і тут мае труднасьці дзеля далечыні польскае школы ад беларускага асяродзьдзя (беларускай школы няма), але калі прыйдзе пасылаць у гімназію ці ўнівэрсытэт, дык тут наш селянін астаецца зусім безрадным, без ратунку і дапамогі. Тая помач, якая даецца самаўрадамі, гэта капля ў моры. А тымчасам многа здольнай сялянскай моладзі марнуецца бяз дай прычыны. Стварэньне яшчэ аднэй ступені ў школьнай драбіне — ліцэю ўважаецца за „сіта“ дзеля прасяваньня сялянскіх дзяцей, якія ня могуць так апанаваць, скажам, польшчыны, як дзеці ўрадаўцаў, дый ня маюць належнага прыгатаваньня. Замест таго, каб вучыць у роднай мове вучня і гэтым палягчыць яму доступ да веды, на розных „курсах“ вучаць, як садзіць буракі, як завадзіць кампастовыя ямы, як гадаваць добрыя пароды кароў, коняў або курэй „зялёнаножак“ і г. д. Вучаць нават, як варыць канфітуры з буракоў! Усё гэта добрыя рэчы, толькі трэба было-б іх паставіць на канцы ўсяго, а не пачатку. Тымчасам у нас усё робіцца **„з канца“**.

Гэтак збольшага прадстаўляецца жыцьцё нашага сялянства. Думаю, што гэта ўсё важныя справы і іх трэба закранаць як найчасьцей. Бо як у прэсе, так і ў парлямэнце пішацца і гаворыцца аб многіх рэчах, толькі не аб сялянстве. Робяцца розныя статыстыкі, у якіх аблічаецца ўсякая дробязь, нават кожнае зерня збожжа, а ня цікавяцца даведацца, сколькі мае на пражыцьцё у дзень наш гаротны хлебароб! Здаецца, каб пасадзіць на палажэньне нашага вясковага хлебароба якога ўрадаўца, дык або ўцёкбы, або скончыўбы самагубствам. Пара падумаць аб палажэньні сялянства ня толькі з боку ўраду і дэцыдуючых дзейнікаў, але і грамадзянства, бо палажэньне сапраўды цяжкое і чакае на скорае вырашэньне.

**Вясковец.**

---

*Найлепшыя пажаданьні!*

*У вапошніх днях чэрвеня сёлета, два нашыя Супрацоўнікі, Сябры Рэдакцыйнае Калегіі „Бел. Фронту“, студэнт мэдыцыны Мікалай Шчорс і студэнт права Вацлаў Папуцэвіч, скончылі навукі Віленскага Ўнівэрсытэту і здалі ўсе належныя экзаміны.*

*Доктару Мікалаю Шчорсу і магістру права Вацлаву Папуцэвічу гэтым выражаем свае найлепшыя пажаданьні ў далейшай працы для дабра Беларускага Народу.*

*РЭДАКЦЫЯ „БЕЛ. ФРОНТУ“.*

---

### З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ.

**„Шлях Бел. Студэнта“.** (за чэрвень сёлета), які выходзіць, як дадатак да „Шляху Моладзі“, зьмесьціў актуальны артыкул У. Караля аб патрэбе беларускага навуковага слоўніка і падае канкрэтны праект рэалізацыі гэтага слоўніка, іменна, пры Бел. Студ. Саюзе або пры Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы творыцца адумысловая камісія, якая мае апрацаваць гэны слоўнік. Працаваць маюць усе студэнты беларусы групамі, паводле спэцыяльнасьці, і так: лекарскі слоўнік, землябробскі, юрыдычны і г. д.

Нам здаецца, што думка зусім добрая, толькі рэалізацыя вельмі маладая, сказаліб, романтычная, ня маючая саліднейшых падстаў. Тут патрэбна камісія не студэнтаў-аматараў, але прыгатаваных да працы адумыслоўцаў і то камісія **сталая**, зложаная ня з „лётнага“ студэнцкага элемэнту, які сяньня на ўнівэрсытэце, а заўтра выходзіць з яго, але з людзей працуючых стала на навуковым грунце. Гэтакая камісія маглаб разлажыць працу на цэлыя гады, сабраць і ўлажыць той слоўнікавы матар'ял, які ўжо апрацавалі слоўнікавыя камісіі ў Менску,

(Далей на адвароце).

---

шчына. Злучэньне іх у вадну гарманійную цэласьць становіць нашу найболей істотную мэту — нашае беспасрэднае заданьне. Жадаем, каб Сьв. Прав. Аўтакэфальны Касьцёл абапёрся на магутны фундамэнт польскае дзяржаўнасьці і стаўся трывалай падпорай (dźwignią) польскай культуры і цывілізацыі з аднаго боку, а з другога, каб Дзяржава далей запэўняла свайму праваслаўнаму касьцёлу трывалкія варункі разьвіцьця і памыснасьці. Імкнёмся, каб праваслаўныя грамадзяне Рэчыпаспалітай заўсёды любілі бацькаўшчыну-Польшчу і ўтварылі перадавую групу, здольную проціўставіцца навале хваляў бязбожнага ўсходу. Каб ажыўленыя любоўю сваей айчыстай зямлі выгадавалі сваіх дзяцей на перадавых грамадзян, Палякоў, сумленна і шчыра выконываючых свае рэлігійныя і дзяржаўныя абавязкі. Мэтай нашай ёсьць, каб старэйшае і маладзейшае пакаленьне праваслаўнага насельніцтва дастатна карысталіся з багатай скарбніцы польскае культуры, узьнімаючы праз гэта свой духовы ўзровень і палепшаючы свой матар'яльны быт“.

Гэтак прадстаўляюцца мэты органу праваслаўных палякаў. Далей пераглядаем зьмест. Ідуць розныя весткі інфармацыйнага характару і артыкулы, падпісаныя літарамі, якія нічога не гавораць. Раптам зрок наш падае пад адным з артыкулаў на поўнае імя і прозьвішча *„Grzegorz Szyrma“*. Праціраем вочы і пытаемся: ці гэта ня ведамы на беларускім грунце кіраўнік хору Рыгор Шырма, ці не? Чытаем артыкул, які носіць загаловак: „O znaczeniu i zorganizowaniu chóru religijnego“ У артыкуле гаворыцца аб песьні, аб хоры, аб музыцы — значыць тойсамы Рыгор Шырма! Цяпер для нас астаецца неразгаданым пытаньне: што прымусіла **беларуса**, Рыгора Шырму, да супрацоўніцтва з праваслаўнымі палякамі?

---

А Навагрудзкае Княства, як сказана, было цэнтрам, новапаўстаючага Вялікага Княства. І хоць ў летапісах былі весткі аб Горадне, паходзячыя з XII ст., Лаўмянскі і іншыя казалі, што яны адносяцца не да Горадна над Нёманам, а да Горадна на Палесьсі.

Вось-жа горадзенскія раскопкі зьбіваюць прыпушчэньне Лаўмянскага і іншых аб адсутнасьці беларускіх цэнтраў на заходніх землях Беларусі і зьбівае ўсю фантастычную тэорыю аб стварэньні Вялікага Княства шляхам „падбояў“ беларускіх земляў аўкштотцамі. З раскопак аказваецца, што ўжо ў XII ст. у Горадні былі мураваныя цэрквы грэцкае веры і іншыя мураваныя будынкі. Раскопкі сьведчаць, што Горадня паўстала вельмі рана, была беларускім горадам і цэнтрам даволі сільнага горадзенскага княства. Панаваўшую тут беларускую культуру ўжо ад раньняга сярэднявечча кіраўнікі раскопкаў Ёдкоўскі і Дурчэўскі ставяць вельмі высока. Натуральна, нічога падобнага ў суседніх аўкштотцаў, ці жмудзінаў ня было. Калі ў сувязі з гэтым спыніцца над летапіснымі весткамі, дык ясным будзе, што Аўкштота часткова падлягала горадзенскаму князю (іншая частка яе падлягала полацкаму). Раскопкі пацьвярджаюць далей **цягласьць** культуры ў Горадні, што зьяўляецца нязвычайна важным. Бо калiб запраўды існавалі літоўскія заваяваньні і высока-культурная на тыя часы беларуская Горадня была адным з першых гарадоў, збудаваных аўкштотцамі, стаяўшымі на бязьмерна ніжэйшай ступені культурнага разьвіцьця, дык тады гэтай цягласьці культуры ня былоб, так як няма цягласьці культуры на землях Украіны, дзе перавальваліся розныя народы, меўшыя рознаякую культуру.

Гэткім парадкам мы бачым, што горадзенскія раскопкі даказалі даўнасьць і беларускасьць Горадна і падважылі фундамэнты гіпатэзы аб „літоўскіх заваяваньнях“. Тут трэба заценіць, што да паўстаньня гэтай гіпатэзы прычыніліся самі беларусы яшчэ ў канцы XIV ст. У гэтым часе зьявілася казка аб рымскім паходжаньні беларускага баярства, якое гэткім парадкам хацела паказаць сваю вышшасьць над польскім. Продкі баярства быццам прыплылі ў Беларусь аж з Рыму, тут аселі і разыйшліся па краі. Спачатку апанавалі этнаграфічную Літву, а потым і ўсе беларускія землі. Гэтая казка была паўторана беларускімі і польскімі (Длугаш, Стрыйкоўскі) храністымі і стварыла міт заваяваньня беларускіх земляў гэтымі „літоўскімі прышлецамі“ з Рыму. У XIX ст. Нарбут выкарыстаў гэтую байку і дапоўніў яе сваімі ўласнымі фантастычнымі разважаньнямі. Байка пайшла ў сьвет з нібы навуковай падхварбоўкай. Мноства дасьледчыкаў прыняло яе бяскрытычна і толькі ад расейскіх гісторыкаў, праф. Ўладзімірскага-Буданава і Леонтовіча, датуецца змаганьне зь ёй. Сяньня тэорыі аб літоўскім заваяваньні трымаюцца толькі некаторыя польскія гісторыкі, як прыкладам ўспомнены Лаўмянскі. Горадзенскія раскопкі рашуча ёй пярэчаць.

Вялікае значэньне маюць такжа віленскія раскопкі. Няма, аднак, яшчэ спэцыяльнай навуковай працы, катораяб падавала агульныя вывады. У дадатку працы гэтыя, хоць вядуцца даволі даўно, усё яшчэ знаходзяцца ў пачаткавай стадыі. Толькі ад часу да часу можна спаткаць у віленскіх газэтах артыкулы, ў якіх праф. Ліманоўскі і Галубовіч падаюць апошнія весткі аб поступах у гэтых працах. Такжа і адносна Вільні трэба сьцьвердзіць, што гэта быў горад асновaны беларусамі і што вэрсыя, быццам Вільню залажыў Гэдымін, зьяўляецца ня больш як байкай. Гэдымін перанёс сюды сталіцу гаспадарства і магчыма збудаваў г. зв. „Крывы горад“, інакш замак на г. зв. Крывой а пазьней Лысай гары (цяперашняя Альтарыя). Вільня, аднак, існавала надоўга да яго і мела замкі, а ўжо ў 1128 г. вільняне ўзялі сабе за князя Расьціслава (унука Ўсьціслава Чарадзея). Цэнтр Вільні, які зьмяшчаўся ў даўнейшых віленскіх мурох, быў чыста беларускім. Тут было шмат цэркваў грэцкае веры яшчэ да паўстаньня касьцёлаў. Толькі адзін касьцёл сьв. Мікалая быў пабудаваны блізу аднachасна з найстарэйшымі цэрквамі і абслугоўваў, відавочна, нямецкіх купцоў, жыўшых на Нямецкай вуліцы. Аб беларускасьці Вільні ёсьць так многа дакумэнтаў, што археолёгічныя досьледы ў гэтым сэнсе мала могуць унясьці новага. Яны толькі хутчэй выясьняць некаторыя дробязі. Апошнія роскопкі і пацьвярджаюць беларускасьць Вільні і зь іх між іншым відаць, што напр. у Крывым Замку на будынках адбіліся пскоўскія (значыцца крывіцкія або беларускія) ўплывы.

З вышэй сказанага мы бачым, што Горадня і Вільня ня толькі цяпер з прычын этнаграфічных (бо ляжаць на тэрыторыі акружанай беларусамі) зьяўляюцца беларускімі гарадамі, але і гістарычна беручы гэтыя гарады беларускія, бо заложаны беларусамі і былі цэнтрамі іхных княстваў. А хіба-ж ня трэба паўтараць, што да спалянізаваньня абодва гарады, асабліва-ж Вільня, былі вялікімі культурнымі беларускімі цэнтрамі. У сьвятле ўсяго гэтага дзіўнымі зьяўляюцца прэтэнсіі цяперашніх літоўцаў да гэтых двух беларускіх местаў. Проці беларусаў літоўцы ня маюць абсалютна ніякіх аргумэнтаў ані этнаграфічных, ані гістарычных ці культурных, каб лічыць гэтыя гарады сваімі. У лепшай сытуацыі яны знаходзяцца адносна палякаў. Супроць беларусаў літоўцы могуць паклікацца толькі на два аргумэнты, прамаўляючыя за „літоўскасьцю“ Вільні і Горадні. Аргумэнты гэтыя: 1) **малады літоўскі імпэрыялізм**, культываваны Басановічам і Довэйно-Сыльвэстровічам, ды 2) **рамантычны сэнтымэнт** да гэтых гарадоў, абапёрты на байках аб сьне Гэдыміна і паэзіі Міцкевіча. Абодва, аднак, аргумэнты ня вытрымоўваюць крытыкі.

**М. Ш.**

---

**Беларусы, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“. Пашырайце яго пасярод сваіх суседзяў і знаёмых! Прысылайце складкі і ахвяры!**

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Другая палавіна чэрвеня прайшла пад знакам вострага японска-англійскага канфлікту на Далёкім Усходзе. Сутнасьць гэтага канфлікту, яго прычыны і мэты мы выясьняем на іншым месцы нашай газэты. Тут скажам толькі, што **мэтай** узьняцьця гэтага канфлікту было **прымусіць Англію адказацца ад помачы для Чанг-Кай-Шэка.** Японія праз блёкаду ў Тьентсіне, Кулянгсу і Сватоў якбы заявіла Англіі: калі не адкажашся памагаць Кітаю, я зьнішчу твае канцэсіі... Ці Японія да пажаданай мэты дойдзе — пакажа будучыня. Паводле апошніх вестак, у Токіё пачнуцца перагаворы паміж Японіяй і Англіяй. Але паміж гэтымі дзяржавамі ёсьць столькі супярэчных інтарэсаў, што верыць у хуткае вырашэньне справы няма падстаў, тымболей, што Японія пачала праводзіць вострую блёкаду **ўсяго** кітайскага ўзьбярэжжа, хочучы спыніць усякую дастаўу аружжа і амуніцыі для Чанг-Кай-Шэка. А гэтай блёкадай моцна нарушаюцца інтарэсы Англіі.

Другім фактам былі крывавыя сутычкі паміж Японіяй і Саветамі на манджурска-мангольскай граніцы. Прычыны і мэты гэтых сутычак дагэтуль ня выясьнены, няведама такжа, хто зьяўляецца пачынальнікам гэтых сутычак.

Трэцім фактам ёсьць недаконченыя яшчэ англійска-савецкія перагаворы. Паводле апошніх вестак Англія быццам пайшла на ўсе ўступкі перад Саветамі, гэта значыць, і на гваранцыі Прыбалтыцкіх дзяржаў, і на поўны саюз, і на аўтаматычнасьць гэтага саюзу, г. зн. пры нападзе на каго-колечы ўсе саюзныя дзяржавы выступяць разам і аўтаматычна. Англійская і франц. прэса піша, што калі і цяпер Саветы адкажуцца ад заключэньня саюзу, дык гэта будзе сьведчыць аб іх злой волі...

Далей ідзе ядналньне і мабілізацыя саюзьнікаў двама блёкамі. Агульны стан змабілізаваных сілаў астаўся такі, які быў на пачатку чэрвеня. Зьвярнуў ўвагу прыедз у Бэрлін паслоў арабскага караля Ібн-Саўда. З гэтага відаць, што музулманскі сьвет дзеліцца на дзьве часьці: адна часьць (Турцыя, Эгіпет) будуць памагаць Англіі, а другая (Арабія, Лібія) — Нямеччыне. Становішча іншых музулманскіх дзяржаў (Іраку, Пэрсіі, Афганістану) яшчэ ня выясьнена. Вялікую ролю ў гэтым становішчы адыграе справа Палестыны. Хоць Англія і перастала там тварыць жыдоўскую дзяржаву, аднак арабскі сьвет да англ. палітыкі адносіцца з недаверам.

Узмагліся ў вапошнім часе выступленьні проціў Англіі ірляндзкіх тэрорыстаў, якія па ўсей Англіі падкідваюць бомбы, кідаюць у паштовыя скрынкі выбуховыя пісьмы, а ў вапошніх днях пачалі падкладаць агонь і выклікаць пажары па розных гарадох Англіі, а нават у Лёндане. Ірляндзкія тэрорысты жадаюць выхаду англ. арміі з усяе Ірляндыі і поўнай незалежнасьці свайго краю. Кажуць, што яны знаходзяцца ў саюзе з Нямеччынай.

## ВАЕННЫЯ І МІРНЫЯ ВЕСЬЦІ.

У другой палавіне чэрвеня ваенныя весьці ня сьціхалі, а нават узмацніліся. Ідуць чуткі аб вялікай канцэнтрацыі сіл у Ўсх. Прусіі і Славаччыне. У гэтай апошняй быццам сабрана 400 тысяч ням. арміі і абсаджаны ўсе праходы праз Карпаты. Гітлер у прамове да афіцэраў сказаў так: На эўрапэйскі гарызонт насунуліся цёмныя хмары. Калі гэтых хмараў ня зможам разагнаць шляхам дыпляматычнай акцыі, дык будзе прымушана выступіць аружная нямецкая сіла. Ведаю, якім вялікім напружаньнем нерваў ёсьць цяпэрашняе палажэньне, але ўпэўняю вас, што разьвязка або ў вадным кірунку або ў другім **блізкая...** Другі нямецкі палітык, Гэбэльс, заявіў, што Ням. будзе весьці вайну з **цэлай сьведамай жорсткасьцю,** каб зьнішчыць праціўнікаў цалком, каб яны ўжо ніколі не змаглі паўстаць проціў ням. сілы. Як бачым, заявы грозныя. Апроч гэтага Гітлер загадаў правесьці і скончыць жніво чымскарэй, асабліва на ўсходняй сваей граніцы, вымалаціць збожжа і вывезьці ўглыб краю. Па загаду Гітлера ням. салдаты вучацца мовы польскай, расейскай, украінскай і беларускай — гэта паказвалаб на ўсходні кірунак ням. паходу, які быццам мае наступіць зараз пасьля жніва... У Гданск выбіраецца нямецкая флёта, але бяз згоды Польшчы яна ў гданскі порт увайсьці ня можа, дык нямецкая прапаганда пашырае весьці, што ў Гданску выбухне паўстаньне немцаў — а гэта будзе сыгналам да выступленьня Ням. у абароне Гданска і проціў Польшчы. Італьянская прэса заклікае Польшч да ўступак, грозячы ёй, што яе няўступчывасьць можа давесьці да новага і апошняга „Finis Poloniae" (канца Польшчы).

Паводле загр. прэсы польская артылерыя зьбіла каля Гданска (Гэль) нямецкі аэраплян...

Гэтакія ёсьць ваенныя весьці. Але побач з гэтым разыходзяцца чуткі аб новых спробах замірэньня. І так Рымскі Папа праз сваіх пасло ў Бэрліне і Варшаве чыніў стараньні аб паразумленьні ў справе Гданска; ў гэтайжа справе рабіў захады і Высокі камісар Лігі Народаў у Гданску, швайцарац Буркгардт; гаварыў аб замірэньні едучы праз Варшаву ў Маскву і англ. дыплямат Стрэнг — але які рэзультат усіх гэтых стараньняў, захадаў і гутарак, няма ведама. Польская прэса адначасна піша, што Польшч ня зыйдзе з свайго становішча і ня ўступіць нічога.

Яшчэ ідуць чуткі, што пасьля заключэньня саюзу з Саветамі і акружэньня Нямеччыны з усіх бакоў Англія выступіць з прапазыцыяй згоды (новага Мюнхэну). З такоюж прапазыцыяй мае яшчэ раз выступіць Рузвэльт... Словам, адначасна з ваеннымі весьцямі ёсьць многа і мірных. Кажуць, што сёлетняе лета (ліпень, жнівень, верасень) будуць у кожнай справе дэцыдуючым! Кажуць яшчэ, што тактыка Нямеччыны ідзе да таго, каб пагрозамі вайны змучыць Польшч, дывэрсыямі ў Эўропе і на Далёкім Усходзе змучыць Англію і Саветы — і давесьці таксама да новага Мюнхэну. Калі так, дык замест вайны можна былоб чакаць новай міравой канфэрэнцыі, дзе сільныя гадзілісяб коштам слабейшых.

Дня 1.VII. Гітлер у сваей прамове мае ўнесьці новыя мамэнты ў сучаснае палажэньне. Дня 2.VII. яму мае адказваць Чэмбэрлен, а тымчасам **у Гданску і на Далёкім Усходзе нешта гатовіцца...**

## ЯПОНІЯ — САВЕТЫ.

На манджурска-мангольскай граніцы ад 11 мая ідуць фармальныя бітвы паміж савета-мангольскай і японска-манджурскай арміямі. У бой уведзены артылерыя, танкі і самалёты. Якія могуць быць прычыны гэтых бітваў, гавораць розна. Адны дапускаюць тут **пробу сіл** і нашчупываньне ў праціўніка слабейшага месца, а другія дапускаюць **дывэрсыю,** як збоку Японіі (запужваньне Саветаў, каб не заключалі саюзу з Англіяй), так і з боку Саветаў (адцягваньне японскіх сіл ад Кітаю). Цікавая рэч, што Саветы аб гэтых бітвах да апошняга тыдня не падавалі ніякіх інфармацыяў, дык нядаўняе апублікаваньне імі сваіх і японскіх страт выклікала ў Расеі вялікую сэнсацыю. Праўду кажучы, паміж пўблікацыямі японскімі і савецкімі аб стратах ёсьць такая вялікая розьніца, што верыць ані аднэй старане ані другой ня можна. Пэўна толькі адно, што страты як ў адных так у другіх вялікія. Цікавая рэч, што пры ўсіх гэтых стратах і пры фармальнай вайне Саветы і Японія падтрымліваюць паміж сабою дыпляматычныя зносіны, вядуць перагаворы, пасылаюць сабе ўзаемныя пратэсты! Відаць, уваходзіць новы звычай, што можна біцца і без вайны... Гэты звычай можа з усходу перанесьціся і на захад.

Паводле апошніх вестак **адносіны паміж Японіяй і Саветамі завастраюцца з кожным днём...**

## АНГЛІЙСКА-САВЕЦКІ САЮЗ?

Саюз гэты знаходзіцца ўсьцяж яшчэ пад знакам пытальніка: будзе, ці ня будзе? Саветы разумеюць, што каліб яны пайшлі на саюз з Англіяй, могуць апынуцца ў японска-нямецкіх клешчах — і пакуль Англія прыйдзе з помачай, трэба будзе самым вынесьці першы ўдар дынамічных дзяржаў. А пры першым удары могуць быць няўдачы, а за няўдачамі могуць пайсьці „контр-рэвалюцыйныя" выступленьні ў нутры краю, а нават у нутры кам. партыі, што давялоб да крызысу савецкае ўлады. Ізноў жа, калі цьвёрда заявіць, што саюзу не падпішуць, Англія будзе шукаць паразумленьня як з Ням. так і Японіяй і гэтае паразумленьне можа быць коштам Саветаў. І так нядобра, і так дрэнна! Дык Саветы адцягваюць справу, як могуць, каб не сказаць апошняга слова. Але ўсёжтакі некалі, прыціснутыя, як гэта кажуць, да сьцяны, будуць прымушаны здэцыдавацца, тымболей, што Англія быццам ідзе на ўсе савецкія варункі, нават на „гваранцыю" Прыбалтыцкіх дзяржаў проціў іх волі! Гэтакая гваранцыя дасьць магчымасьць Саветам увесьці свае арміі ў Прыбалтыку тады, калі яны гэта будуць уважаць для сябе канечным...

---

дапоўніць яго новым матар'ялам і гэтакім парадкам улажыць жаданы слоўнік. Камісія такая маглаб стварыцца пры ўнівэрсытэце з прафэсароў, або пры Акадэміі Навук, але як у нас тут няма ані аднаго, ані другога, дык найлепш былоб стварыць пры Бел. Нав. Т-ве; ясна, што студэнты бралі б у яе працах выдатны ўдзел. А так мы баімся, што праект У. Караля можа астацца толькі **стройным праектам.**

## КАНФІСКАТА „БЕЛ. ФРОНТУ".

Загадам Віл. Гарадзк. Старасты быў сканфіскаваны папярэдні (12) нумар „Бел. Фронту". Канфіската наступіла за ўвагі да „Зацемак з жыцьця" на падставе арт. 170 К. К. і арт. 11 Дэкрэту з дня 23.XI.1938 г. аб абароне некаторых інтарэсаў Дзяржавы. Пасьля канфіскаты быў выданы другі наклад.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ.

Вельмі Паважаны Спадару Рэдактару!

Калі ласка, не адмоўцеся надрукаваць у Вашэцевым паважаным часапісе гэткі ліст:

Нядаўна я дастаў па пошце з заграніцы „Карту беларускага языка подле др. Я. Станкевіча". Дзеля таго што мая карта дагэтуль ня выйшла, чытаром ня будзе ведама, што ў менаванай карце маё, а што аўтарава. А ня хочучы прысабечаваць не належачае мне заслугі, ані браць адказнасьці за заганы выданае карты, лічу патрэбным падаць да ведама наступнае:

У 1936 г., надрукаваўшы ў Вільні ў „Balticoslavica" II. „Mapa dialektów białoruskich", прытарнаваную да друкаваных там маіх артыкулаў, я зараз-жа апрацаваў пабеларуску — зь вельмі малымі папраўкамі, абапертымі на новым матар'яле — карту пад такім-жа назовам „Карта нарэччаў беларускага языка", прытарнаваную да асобнага выданьня. У 1938 г. зьвярнуліся да мяне з заграніцы беларускія эмігранты з просьбаю прыслаць карту Беларусі або, калі яе няма, рукапіс карты, каторы-бы яны выдалі. Я паслаў рукапіс свае карты, подле каторай дзесь заграніцаю і была выдана вышменаваная карта беларускага языка. Кажу „дзесь", бо на карце не паказана хто, дзе й калі яе выдаў. Выданая заграніцаю карта розьніцца ад мае гэткім:

1. З выняткам граніцы паміж двума нарэччамі беларускага языка на карце не паказаны дыялекты й гутаркі, на каторыя дзеляцца гэныя нарэччы;

2. не паданы мае выясьненьні, матывуючыя граніцы паміж беларускімі нарэччамі й дыялектамі ды граніцы іх із суседнімі мовамі;

3. географічныя назовы ў выданай карце вельмі папсаваны, што часткава хіба трэба выясьніць карэктарскім недаглядам;

4. затое на выданай карце падана статыстыка насяленьня ў кажнай частцы беларускае зямлі, чаго ў мяне ня было.

Іншых магчымых розьніцаў, ня маючы перад сабою цяперака „Карты беларускага языка" (забрала яе ў мяне паліцыя ў часе рэвізіі 20.VI.), не прыпамінаю.

Прымеце, Спадару Рэдактару, словы мае глыбокае да Вашэці пашаны.

**Др. Я. Станкевіч.**

У Вільні, 28.VI.39 г.

## БЕЛАРУСЫ НА ЧУЖЫНЕ.

**У Злуч. Штатах** расейская газэта „Рассвет" (15.V.39) зьмясьціла артыкул аб беларускім нацыянальным руху. У артыкуле апісваецца тэрыторыя Беларусі, колькасьць насельніцтва, гісторыя бел. адраджэньня, сучаснае палажэньне бел. народу як у Польшчы так і у Саветах, а такжа на эміграцыі. Адносіны газэты да белар. руху прыхільныя.

**У Францыі,** як падае ўкр. газэта „Нова Зоря" (4 і 8.VI) рэдактар „Рэха", органу беларускай эміграцыі ў Францыі М. Абрамчык, дня 23.IV. чытаў лекцыю на тэму „Беларусь у мінуўшчыне і сучасьнасьці". Людзей было нямнога: 15 беларусаў, некалькі ўкраінцаў і адзін расеец. Зьмест лекцыі менш-больш такі самы, які паданы ў газэце „Рассвет", але нас ня гэта інтарасуе. Нас болей зацікавіла апісаньне варункаў працы і жыцьця беларусаў у Францыі. Восьжа рэдакцыя „Рэха" месьціцца на сальцы сяміпаверхнага дому ў Парыжы. У цесным памешканьні зьбіраюцца сябры „Беларускага Хаўрусу", але хіба па-чарзе, кажа газэта, бо ўсе разам хіба-ж там не зьмясьцілісяб. У вадным пакоі ў розных кутох месьціцца ўсё, і рэдакцыя, і бібліятэка, і друкарня (рататар), дзьве машыны да пісаньня, і спальня рэдактара. На сьценах вісіць партрэт першага бел. друкара Ф. Скарыны, карта Беларусі і расклад гадзін дапаўняючых белар. курсаў, заложаных нядаўна ў Парыжы. Рэдактар інтэрасанта саджае на адзінокае крэсла і дае выясьненьні: Беларускі Хаўрус мае 4 аддзелы на правінцыі; сувязі з заграніцай трудныя, бел. эмігранты адарваны ад абедзьвух часьцін краю, польскае і савецкае; сілы эмігрантаў перш за ўсё канцэнтруюцца каля культурна-прасьветнай працы. Большасьць з іх незалежнікі, але палітыкай не займаюцца, бо „палітыка ў сучасных варунках — гэта ар'ентацыя. А ў нашым трудным палажэньні ар'ентавацца няма на каго, толькі на сябе самых" — кажа рэдактар.

Наагул, рэдактар М. Абрамчык пасьвяціў сябе цалком беларускай справе.

Ад сябе адзначым, што вялікая шкада, што весткі аб жыцьці бел. эміграцыі мы чэрпаем не беспасрэдна ад беларусаў, але з іншых часапісаў. Але калі інакш ня можна, дык добра і гэта!

---

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski. Druk. M. Bogatkiewicza i Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.